Год II | Чацьвер, 19 студня 1922 г. | № 12 (21)

# РАНІЦА

штодзенная грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ:
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki“ пак. № 2.
Рэдакцыя адчыняна што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

Цана нумару 20 марак.
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . : 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.



*Вільня, 19 Студня 1922 г.*

Палітычная сытуацыя апошняга часу зьмянілася. Яшчэ тыдзень раней тэлеграмы апавясьцілі ўвесь сьвет аб стварэньні Анга-Францускага хаўрусу, а цяпер аб гэтым хаўрусу ня можа быць і размовы, хаўрус разваліўся дзеля таго, што нямеў рэальнага грунту, бо для Англіі ня істнуе палохаючая Францыю германская апасьнасьць, а для Францыі заўсім не зразумела, чаму Англія горача інтэрэсуецца эканамічным жыцьцём Гэрманіі ў справе адбудовы Эўропы.

Брыан, дзеля таго, каб перахаваць дружбу з Англяй, шоў на ўсялякія кампрамісы і Францыя знайшла, што ён зашоў ў гэтых кампрамісах вельмі далёка.

Разрыў выявіўся ў той момант калі скліканая Англіяй канфэрэнцыя выпрацовывала плян адбудовы Эўропы—і пасьля таго, як Англія замацоўвала свае адносіны да Амэрыкі.

І калі год раней ў працівавес намечанай Англа-Гэрманскай згодзе працівастаўлялася Француска-Амэрыканская, дык пасьля Вашынгтонскай канфэрэнцыі анціа-нглійская арыэнтацыя амэрыканскай палітыкі з'яўляецца заўсім не мажэбнай.

Праўда і Францыя прыймае ўдзел у чацьвярной згодзе, якая гарантыруе мір на Тіхім моры, але ўчасьце яе ў дальне-ўсходніх справах не вялікае. І ўчасьце з Англіяй ў дальне-усходней справе ня можа ўраўнавесіць разрыў дзеля Эўрапейскіх спраў.

Палітыкі Францыі, асудзіўшыя тактыку Брыана, вымагаючыя ў адносінах да Англіі большай устойчывасьці і цьвердасьці, а ў адносінах да Германіі непрымірымасьці, прынялі пад увагу ўсю палітычную кан'юнктуру апошняга часу і толькі тады атазвалі Брыана з канфэрэнцыі ў Канах.

Францускія палітыкі, відаць, лічуць жто Францыя цяпер даволі моцная, маючая добрую армію, не баіцца застацца ізаліраванай. Апіраючыся на хаўрус з Малай Антантай і Польшчай, Францыя ў справах Эўропы можа мець вялізарнае значаньне. А згодай з Ангорай яна паказала, што і ў Азыі можа весьці незалежную ад Англіі палітыку.

Тым часам канфэрэнцыя ў Канах з вялікай яснасяцью паказала, што Эўропа знаходзіцца пад уплывам Англіі вернай палітыкі Лёйд-Джорджа. Гэта вымагае Францыю зьмяніць сваю палітыку, высвабадзіўшыся з пад уплыву Лёйд-Джорджа, зьвярнуць на прынцыпіяльны і правільны шлях у сваіх адносінах да Саўдэпіі.

І Калі Францыя шчыра і цьверда пайдзе па гэтаму шляху, яна пакажа ўсяму сьвету, што разрыў Англа-Францускага хаўруса мае пад сабой ня толькі матэрыяльны, але і ідэйны грунт. Такая палітыка Францыі будзе карыстнай ня толькі для яе, але й дзеля ўсяго сьвета. Яна пакажа, што Францыя, як і раней, стаіць на варце прынцыпаў права, якія так лёгка ігнарыруюцца іншымі дзяржавамі дзеля „гандалю“ з бальшавікамі.

З усяго гэтага заўсім ясна, што Францыя, стаўшы на грунт правільнага разуменьня ўсясьветнай палітычнай каньюнктуры, можа на ўвесь сьвет заявіць, што не яна загараджывае пуць да адбудовы Эўропы, бо гэты пуць, па якому вядзе палітыка Лёйд-Джоржда, не абяцае чалавечаству нічога, апроч ня збыўшыхся надзей і ўмацаваньня бальшавізму ў Эўропе.

✦✦✦✦

## ТЭЛЕГРАМЫ.

КЛЯЙПЭДА 18. І. (А. В.). На паседжаньні рады Кляйпэды, Камісар Перыхэн зрабіў даклад аб сваіх стараньнях ў Радзе Паслоў аб цяперашней сытуацыі Кляйпэды.

Рада паслоў, будучы прыхільнай да пажаданьняў камісара, дазволіла зрабіць гандлёвыя умовы з Польшча, Нямеччынай і Літвой. Адпаведныя прапазыцыі ўжо зроблены гэтым гаспадарствам і ў недалёкай будучыне пачнуцца перэгаворы з імі.

КРУЛЕВЕЦ 18. І. (А. В.). Заложаны ў Крулеўцы эканамічны інстытут мае мэтай урэгуляваньня эканамічна-гандлёвых адносін Маскоўшчыны з ваколічнымі гаспадарствамі. Апрача гэтага інстытут будзе цэнтрам гандлёвых адносін Польшчы да рэшткі Еўрапейскіх гаспадарств.

ПАРЫЖ 18. І. (А. В.). Прадстаўніка Бэльгіі ў Каннах паведамілі, што Ангельска-Бэльгійскі хаўрус ўжо падпісаны. Згодна ўмове гэтага хаўруса, ў выпадку нападзеньня немцаў, Англія дапаможэ Бэльгіі ўсім, чым толькі будзе магчыма,

ПАРЫЖ 18. І. (А. В.). „Matin“ піша аб канфэрэнцыі Пуанкарэ з Лёрдам Гурзоном, які вылажыў ангельскі пагляд ў справе Француска-турэцкага трактату, а так сама і мажлівасьць пасрэдніцтва ў грэка-турэцкім канфлікце. Пуанкарэ ухіліўся ад дыпляматычнай размовы. У справе генуэнскай канфэрэнцыі, Пуанкарэ заявіў, што Францыя перад пачаткам канфэрэнцыі патрэбуе ад ўсіх ея вучасьтнікаў згоды на прыняцьце варункаў і толькі тады прыступіць да дыскусый.

ПАРЫЖ 18. І. (А. В.). „Echo de Pary“ паведамляе, што ў лік запрошаных на Генуэнскаю канфэрэнцыю знайдуюцца, паміж іннымі Венгрыя, Балгарыя, і Маскоўшчына.

ПАРЫЖ 18. І. (А. В.) „Chikago Tribun“ паведамляе, што амэрыканскі ўрад адмовіўся прыняць запрашэньне на венуэнскую канфэрэнцыю.

МАСКВА 18. І. (А. В.) Пасол Стэфанскі падаў ноту Савецкаму Ураду ў справе рэпатрыацыі. У ноце робіцца прапазыцыя аб палепшэньню справы паварота ўцекачоў. Лік польскіх уцекачоў, варочаючыхся на бацькаўшчыну будзе павелічаны да 8.000 чалавек у дзень.

КРАКАЎ 18. І. (А. В.) У панядзелак у тутэйшым магістраце адбылася канфэрэнцыя ў справе жалезнадарожнага злучэньня Горнага Шлёнзка з Малапольшчай. Выясьнілася патрэбнасьць узбудаваньня двукалёвай лініі ад Шчакова да Мыславіц, а так сама пашырэньня кракаўскага жалезнадарожнага вузла.

МАСКВА 18. І. (А. В) Курс залатога рубля да-ваеннага часу, згодна з афіцыяльным распараджэньнем раўняецца 80.000 савецкім рублём.

БРУСЭЛЬ 18. І. (А. В.) Прадстаўнік меньшавікоў Аксельрод падаў у тутэйшыя газэты адозву да Вандэрвэльда, а роўна-ж да бельгійскік рабочых парый і да III інтэрнацыянала, дзе ён зварочывае ўвагу на становішча арыштаканых праз бальшавікоў у Маскве маскоўскіх сацыялістаў.

ЛЕНДЫН 18. І. (А. В.) Прадстаўнік Маскоўшчыны выежджае да Амэрыкі, каб закупіць збожжа для Маскоўшчыны.

КАТОВІЦЫ 18. І. (А. В.) Камісіі пачтовая, акружная, жалезнадарожная і таможня закончылі сваю працу.

МАСКВА 18. І. (А. В.) У панядзелак, на таржэсьцьвенным пасяджэньню савета маскоўскіх прафэсіянальных сувязей і мяскоўскага гарнізону ў чэсьць атрыманьня сьцяга, Троцкі сказаў прамову, аб міжнародовай сытуацыі і аб заданьнях чырвонай арміі. Троцкі заявіў, што цяперака цэнтр палітыкі пераносіцца з Лендына да Вэрсалю, Вашнгтона і да Генуі.

Падзеньне Брыана робіць два выйсьця: 1) французкі парлямэнт зразумее сваі няўдачы і пайдзе па сьцежцы Лейд-Джорджа—тады і Маскоўшчына пашле ў Геную сваіх прадстаўнікоў, ці 2) наступіць карэнная зьмена курсу французскай палітыкі і адраджэньне анты-савецкіх ідэі. Гэтае другое выйсьце цяпер болей ўсяго непакоіць Саўдэпію, а роўна-ж Польскі, Румынскі і Фінскі ўрады.

МАСКВА 18. І. (А. В.) У тых днях выяжджаюць ад сюль палкоўнік Чума, п. Дыбоскі, Кіндлер, Венцкоўскі, пані Дыбгынска, Доянова, Довойлю-Соллогубава і Тамашэўскі. У панядзелак адышоў з Масквы пяты шалон, і пятыбіс із Красноярску з рэпатрыантамі.

ПАРЫЖ 18. І. (А: В.) Лёйд-Джордж сягоньня выехаў з Парыжу.

ЛЬВОЎ 18. І. (А. В.) „Рідны Край“ паведамляе аб абвастрэньню адносін паміж украінскімі і маскоўскімі бальшавікамі.

✦✦✦✦

## Справа рэпатрыацыі.

(Размова з п. Грабскім)

Надзвычайны камісар для справы рэпатрыацыі п. Владыслаў Грабскі даў прадстаўнікам варшаўскай прэсы гэткую інфармацыю аб становішчы рэпатрыантаў і аб той дапамозе, якую ім дае ўрад.

— „Перш усяго-апавядаў п. Грабскі—трэба зьвярнуць увагу на вельмі цяжкія варункі, ў якіх прыходзіцца працаваць тым людзям, якія нясуць помач рэпатрыантам.

У Баранавічах, напрыклад, сярод 80 працаўнікоў, занятых пры рэпатрыацыі, ўмярло 15, хворых ёсьць 46.

У санітарным цягніку, які вёз хворых з Баранавіч да Седлец у працягу аднаго дня ўмярло 22 з агульнага ліку 178 і гэта не гледзячы на тое, што дарога адбывалася пад апекай доктара і пры лепшых санітарных варунках.

Для дагляду за хворымі ў Седлецах былі ўзяты 21 жаўнер, з‘якіх зараз-жа захварэла 12 чалавек.

Рэпатрыянты—ў большай частпы людзі нізкай культуры, не саблюдаючыя ні якой гігіены. Пры такіх варунках апека над рэпатрыянтамі вельмі цяжкая пэрсанал, працуючы ў справе рэпатрыацыі, павінен быць вазнагражаны лепей, чым да гэтага часу.

Трэба адзначыць, што згодна ўмовы, павінны прысылацца толькі здаровыя. Тым часам у эшалоне, які прыбыў ў Баранавічы з Бузулука ўсе прыехаўшыя аказаліся хворымі. Таксама ў апошнім эшалоне, прыбыўшым у Баранавічы на 1200 рэпатрыянтаў знайдзена 538 хворых.

Пры такіх кепскіх варунках ідзе валка з эпідэміей. Глаўнае—трэба паставіць на доўжную высату дэзэнфэкцыйны апарат, без чаго аб злакалізаваньні эпідэміі ня можа быць мовы.

Першыя крокі ў гэтай справе ўжо зроблены.

Усе справы, зьвязаныя з лакалізацыяй эпідэміі даручаны начальнаму камісарыяту для барацьбы з эпідэміямі,але ўрад эміграцыйны павінен аказываць яму помач.

Апроч гэтага ў ваяводсьцве Валынскім і Беластоцкім, мейцовае грамадзянства само арганізавала дапамогу рэпатрыянтам.

✦✦✦✦

## Размова з п. Тупальскім.

Дэлегат Польскага Ураду палкоўнік Тупальскі даў прадстаўніку «Agencji Prasowej“ ў справе Віленскага Сойму гэткія інфармацыі:

На за пытаньче, які пагляд мае Польскі Урад на выбарную акцыю п. Дэлегат засьведчыў, што Польскі Урад з вялікім задаваленьнем прыняў да ведамасьці памыснасьць Польскай справы.

Заграніца адтрымала яшчэ довад, што Віленшчына бяз жаднага націску з боку Польшчы, ясна стала на грунт Польскай Дзяржаўнасьці.

Трэба падкрэсьліць, што ў гэтым праканаліся быўшыя, ў час выбароў, ў Вільні прадстаўнікі Лігі Народаў, так сама і прадстаўнікі заграпічнай прэсы, якія самі былі жывымі сьведкамі выбарнай акцыі.

На запытаньне, якую пазіцыю займе Польскі Урад на конта працы Віленскага Сойму, п. дэлегат сказаў, што на сколькі яму ведама, Польскі Урад будзе прытрымавацца палітыкі абсалютнага неўмешапельства ў працу Сойма. Зароўна характэр Сойму і сваю кампэтэнцыю акрэсьліць сам Сойм, а Польскі урад будзе трымаць нэйтральнасьць.

На запытаньне, ці атрымаў п. Дэлегат дэрэктывы з Варшавы аб тым, якое становішчэ займе дэлегатура ў Сойме, п. Дэлегат раз‘ясніў, што ў худкім часе едзе да Варшавы дзеля таго, яаб агаварыць усе справы, звязаныя з ролью, якая дастанецца дэлегатуры ў часе сэсьі Сойму.

✦✦✦✦

## Весткі з Варшавы.

1 лютаго Міністэрства Скарбу выпускае новую сэрыю білетаў на суму ў 30 мільярдаў марак.

Чуткі аб зьніжэньні акцыза на сьпірытус—няверныя.

Акцыз на спірытус застанецца ранейшы.

У Варшаву прыехала некалькі дэлегатаў Віленскага Сойму.

Прэзэс Рады Міністраў п. Панікоўскі адтрымаў адрэс з падзякай ад гміны жыдоўскай, за адмену аграпічэньняў для жыдоў.

## Палескія Успаміны.

(Маленькія абразкі.)

### 10. Сустрэліся.

Прабірацца скрозь лес цяпер была гарэй як раней, бо намокшыя галіны кожны раз крапілі нас студзёнымі кропямі.

— „Ось табе і другі дождж!“ весела гаманіў Міхась „толькі тая розніца, што ня з хмар, а з галін палівае“

Як-кольвек, цыркаючы, шлі далей... Раптам недзе з боку зусім блізка гукнуў стрэл і каб кольвек чутачкі, дык забіты цяцярук упаў бы на галаву Міхася.

— „Ось дык праява сказаў Міхась, падымаючы цяцярука, але ў гэтую хвілю адкульсь зьявіўся чорны сабака і пачаў брахаць на нас. Праз мамэнт пачуліся цяжкія крокі і на сьцежку выйшаў чалавек.

Скураная яго адзежа блішчэла ад макраты і дзе не дзе папрыліпывалі да яе лісьця

— „Вы што дзядзька, за птушкай?“ Зьвярнуўся да яго Міхась.

— „Але“ адазваўся той, адганяючы ад нас вельмі цасьмелеўшага сабаку, які ўгледзеўшы сваяго гаспадара, пачаў кідацца да нас.

— „Жук сюды!“ зваў ён сабаку. „Сьціхні, каб цябе ваўкі!...“ Але жук на сьціхаў і яшчэ больш заліўся, мусіць вельмі быў скрыўджаны тым, што забітая птушка дасталася ў чужацкія рукі.

Я прыглядаўся да чалавека і дзівіўся, штось знаёмы твар і ніяк ня мог уцяміць, якім парадкам ён мог апынiцца тутака. Але мусіць чалавек угледзеў, што я нешта мяркую і мо думаючы, што яго спазнаў усьмяхаючыся зьвярнуўся.

— „Што, ня спадзяваліся мяне сустрэціць тутака, пане Дзяргач?“

— „Петра!“ вырвалася ў мяне „якім цудам?“

— „Дый ось, дзякуючы Богу, бачыш жывы й здаровы!“ адказаў ён.

Мы абняліся, як родныя. Я пазнаёміў яго з Міхасем. Гэта быў той самы Петра, якога лічылі забітым усе нашы сябры, нават і я сам.,.

Але ўсё-ж, у брэхню людзёў, я ня верыў.

Як мог прапасьці такі чалавек, як Петра?

Ось думкі мае спраўдзіліся. Ен жывы і цяпер мы йшлі ў трох весела гамонючы. На хутары нас сустрэлі сьмехам:

— „Што пакупаліся? дасталі лазьню,“ сьмяючыся казаў бацька Міхася.

— „Нічога,“ адказывалі мы ўсе, сядаючы за стол...

Па абедзе мы выйшлі пасушыцца на сонца і Петра пачаў:

„Ось паслухайце, мае братачкі, што бачыў і што перажыў я, пакуль папаў сюды, ў родны лес, ад людзей захаваўся...“

І ён пачаў свой расказ,,.

### 11. Шляхам далей.

Ен скончыў. Цяжка зрабілася на сэрцы. Сум апанаваў нас усіх...

— „Цяжка табе, браце мой родны! Я бачу, ох, як цяжка! Але што зробіш... Выпала нам на долю нясьці цяжкі крыж жыцьця. Ну штож, дык будзем нясьці! Будзем да канца цад цяжарам яго йсьці шляхам сваім, хоць цярністы гэты шлях! Але з горда поднятай галавой пойдзем, браце, мы далей. Пойдзем! Хай сьмяюцца, хай гонюць! Але мы ня зыйдзем з дарогі! Ня зыйдзем! Не! ніколі!

Хай зьяюць маланкі, грухацяць пяруны, нам усе роўна... крыж свой цяжкі панясем напярод,,. Панясем на тую гору, дзе, быць—можа, на ім нас жа раскрыжуюць, як раскрыжавалі памятаеш, браце, Яго... Мо на касьцёх нашых калісь паўстане край, наш родны, ачнецца брат наш цёмны. і збудуе хату, ў якой сам запануе.

Дык веры балей, моцы балей і пойдзем, браце, шляхам начным да канца... Хай крыж цяжкі! Але будзем некалі, хтось шляхам гэтым горда, сьмелаісьці бяз крыжа...

Дык ня сумуйце, браточкі, што пытаюць вас „хто ты?“ Хутка прыйдзе гадзіна—нас спатыкаць будуць з далёку дзьверы ва ўсіх хатах адчынюць, запрашаючы нас..,

Але ці зойдзем тады мы да іх?...

Будзем жыць жыцьцём сваім, сваім урадам сьветлым, як сонца, магутным як бура!...

І ня трэба дудзе балей ні кіёў ні торбы!... Будзем вольна жыць! Вось чуеце, браточкі! Лес шумець пачынае, штось гамоне, кудысь кліча! Чуеце??...

Заве ён нас на шлях наш...

Моцна заве! Ківае зелёнымі галінамі, нібы паказываючы дарогу...

Дык уставайце браты! Уставайце! Дось сядзець! Бяром пакуль што торбы, кіі і гэй на шлях!...

Ужо там зьбіраецца грамада, і крыж цяжкі нясуць...

Лэдзьве яго паднялі на плечы худыя. Дык, гэй брацьця! Хутчэй на дапамогу ім!...

А там хай згінем пад крыжам, але данясем яго да канца, ня кінем сярод дарогі...

Хай хоць на нашых касьцёх, але паўстане край наш родны.

Дзяргач.

## ХРОНІКА.

### Адкрыцьце Сойму.

Бюро прэсы Час. Урадавай. Камісыі паведамляе, што тэрмін адкрыцьця Віленскага Сойму назначаны на 1 лютага.

### Прыёмныя гадзіны у п. Мейштовіча.

Прэзэс Часовай Урадавай Камісыі п. Мейштовіч прыймае што дзень ад 12 да 1 г. дня.

### Чуткі аб адстаўцы п. Лянсбэрга.

Ходзяць чуткі аб адстаўцы дырэктара віленскай дырэкцыі жалезных дарог п Лянсбэрга.

### Высылка чужаземцаў.

На днях, як кажуць, высылаюцца з тэрыторыі Сярэдняй Літвы партыя чужаземцаў, ня маючыя права жыцельства.

### Насене для Сярэдняй Літвы.

З Варшавы паведамляюць, што для Сярэдняй Літвы адпушчана насеня.

### Эпідэмія тыфуса.

У Ландварове пануе тыфус, занесены прыбываючымі ўпекачамі.

### Новая пасада.

Дэкрэтам № 459 прэзэса часовай урадуючай камісыі ўстаноўлена пасада Дырэктара габінэту прэзэса час. ур. камісыі.

На гэтую пасаду назначаны к. С. Ржэвускі.

### Памілаваньне.

Прэзэс часовай урадавай камісыі па прозьбе жонкі памілаваў асуджанага Акружным Судом на паўтара года ў турму Владыслава Раманіса, які выпушчаны на свабоду.

### Наблюдзеньне за канторамі.

Урад решыў прыняць энэргічныя меры барацьбы з мечавымі канторамі, ухіляючым‘ся ад занесеньня ў кнігі ўсіх сваіх аперацый,

✦✦✦✦

## Маленькі фэльетон.

### Так-такі сьцяміў.

Нядаўна давялося спаткацца з адным з даўнейшых знаёмых, інжэнерам-капіталістам К.

Як ведама, пачалі пытацца адзін у другога, хто дзе быў, як уцалеў падчас вайны і маскоўскай рэвалюцыі, дзе цяпер жыве і што робіць?.

Я паведаў аб сваім горэ-жыцьці, аб змаганьні з бальшавікамі ў дабравольчэскай арміі, жаліўся на тое, што нас не падтрымалі ў рашучую мінуту:—стары і песьні старога дабравольца!

— Ведаеце што! — адказаў ён мне, калі я скончыў жаліцца: — Вялікая абмылка анті-бальшавікоў у тым, што яны бяруцца за справу не с таго канца, з якога патрэбна! Бальшавікі з вамі змагаюцца золатам, а вы? Вы бьецеся кулямётамі, гарматамі, штыкамі — тым, што можна купіць і прадаць. Праз гэта вы і траціце. А было-б вам натрапіцца на думку паспрабаваць „выбіць клін клінам“, пусьціць проці іх іх-жа аружжэ — сусім іная справа! Гарантую, што праз два месяца не было-б ніводнага бальшавіка!..

—„Добра, але-ж дзе ўзяць капітал?

— Зьвярніцеся да капіталістаў і яны вам дадудь! Трэба іх толькі зацікавіць добрым процэнтам!.. Да што казаць? Я сам першы кіну ўсе сваі мільёны на выкананьне аднаго пляна, які ўжо даўно сядзіць шмат ў каго ў галаве!..

-- Што-ж гэта за плян?

— А вось якая справа... Пачну з далека... Слухайце!.. Праўдзівыя бальшавікі — гэта кучка хамаў, якія сядзяць ў Крэмлі. Рэштка — прадажнае быдло, якое можна купіць за залаты рубель... Згаждаецеся?.. Дык далей: ваабразіце сабе, што аднаго дня прападаюць „крамлёўцы“... Што будзе далей? —

А будзе тое, што ўся бальшавіцкая авантура пахіліцца і бальшавіцкае быдла пойдзе туды, дзе яму пакажуць рубель...

Вы пытаецеся, як можа стацца што „Краснаармейцы прападуць?. Вельмі проста: мы іх купім за грошы... Ня сьмейцеся, даражэнькі! Гэта ня жарты, ня пінкертонаўшчына... Што вы скажаце на тое, што ў першы-жа дзень мы, капіталісты кінем на адзін распачатак гэтай справы 10 мільёнаў доляраў?. Што? перасталі сьмяяцца? Да, даражэнькі, няма таго, чаго-бы ня мог зрабіць залаты доляр.

Ня трэба запамятаваць: 10 мільёнаў залатых доляраў на адзін пачатак, а там яшчэ і яшчэ дзесяткі.

Ды нам іх ўжо праз месяц жывымі ў торбе прывязуць і Леніна і Троцкага!.. Чаму, кажаце да тых часаў не зрабілі гэтага?.

А вось тутака, як тое кажуць, і „захавана сабака...“ Рэч у тым, што цяпер век камерчаскі. а не альтруістычны. Дармо ні хто грошаў ня дасьць... А вось зрабеце так, каб нам была дана канцэсія, што мы маем вазіць бальшавіцкіх правадыраў ў залезнай клетцы па мясцох і паказываць за грошы — заўтра жа я першы даю 30 мільёнаў і выпушчаю акцыі, а праз тыдзень ужо будзем шукаваць клетку і разважаць аб цане білетаў, на прыклад: уваход 500 мар., раз плюнуць — 2.000 марак, даць па мордзе (алеж лёгка, каб не забіць) — 5.000 марак і г. д.

— Дык вось як, даражэнькі! закончыў ён: дастаньце канцэсію, а мы гарантуем, што зьнішчым бальшавізм. Ды і заробім, у дадатак, на гэтым не малые грошы!. Прашчайце! Мне трэба бегчы па „справам службовым“... Захадзеце да нас!...

Паціснўў руку і ўпёк.

Я стаяў і ніяк ня мог сьцяміць, жартаваў ён ці не: гаварыў нібы і паважна, а вочы блішчэлі і сьмяяліс.

Антон Шуляк.

✦✦✦✦

## Абвестка.

### Згублена

20 сьнежня 1921 году засьведчэньне на імя паручніка Гузнея Якуба, выданае праз Dowództwo Obozu internowanych w Dorohusku za Nr. 100 od 18 maja 1921 roku.

Знайшоўшага прашу вярнуць у Рэдакцыю.

Рэдактар-Выдавец: Вацлаў Адамовіч

Друкарня „Друк“ Субач 2.